Цана асобнага нумару 15 гр. Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 62 (113). Вільня, Субота 27 Жніўня 1927 г. Год III

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Няхай жыве Беларускі Народ!

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
ВІЛЬНЯ, ЗАВАЛЬНАЯ 6. (Wilno, Zawalna 6.).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадзіны апрача сьвята.
Рэдактар прыймае ад 12 да 2 гада.

Зямля Сялянству бяз выкупу!

Падпіска:
на адзін месяц — 1 зал., на 3 месяцы — 2 зал., на 6 месяцаў 4 зал., на год — 8 зал.
Для заграніцы удвая даражэй.
Аплата надрукаванага залежыць ад рэдакцыі
ВЫХОДЗЕ Ў СЕРАДУ І СУБОТУ.

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

## Проці сучаснай зямельнай рэформы.

Віленскія абшарнікі з манархістычнаю ідэалёгіяй згуртаваныя каля газэты „Słowo“, памалу ды памаленьку набіраюць сілы і размаху.

Апошнімі часамі яны павялі паход проці зямельнае рэформы, якая адбываецца ў Польшчы наагул, а ў Заходняй Беларусі асабліва. Аргумэнтамі на гэта яны ставяць не „сьвятое“ права на ўласнасьць (відаць пераканаліся, што гэты аргумант нічога ўжо ня варты), а нястачу хлеба ў Польшчы. Абшарнікі стараюцца даказаць, што сёлета збожжа прывязьлі болей з-за граніцы як вывезьлі, а гэта якраз гавора за тое, што земляробская Польшча ня можа пракарміцца сваім хлебам.

У чым-жа прычыны гэтага? Прычыны нястачы хлеба ў Польшчы абшарнікі бачаць—у зямельнай рэформе. Яны гавораць, што абшарнікі ня будучы пэўнымі ў правах уласнасьці да сваіх маёнткаў не стараюцца павысіць культуру маёнткавае гаспадаркі. А калі гэтак, дык гаспадарка дае благі ўраджай і вось—у рэзультаце нястача хлеба. Каб паправіць гэта, абшарнікі пішуць, што трэба скасаваць зямельную рэформу і вярнуць абшарнікам поўнасьцю „сьвятое“ права на земляробскія абшары.

Сочачы за падзеямі і кірункам палітычнае і ўрадавае думкі ў Польшчы, мы ня сумляваемся, што зямельная рэформа будзе скасавана, што абшарнікі здабудуць сабе „сьвятую“ ўласнасьць.

Як-жа мы павінны адносіцца да абшарніцкага вымаганьня адносна рэформы і правоў? А вось як: утрымаць нэйтралітэт. І вось дзеля чаго.

Тая зямельная рэформа, якая праводзіцца цяпер і будзе праводзіцца далей няязьмерна крыўдзіць нашае беларускае сялянства. Мы відзім, што парцэлюючы абшарніцкую зямлю, яе даюць або асаднікам, або каляністым. Так, што замест аднае скулы-абшарніка, нам даюць некалькі балючых скулаў—асаднікаў і каляністых. Цяпер, калі маёнтак захоўваецца ў цэласьці, шмат хто мае хоць мізэрную апору пры ім: хто служыць парабкам, хто заробіць які грош сэзоноваю працаю, хто дастане якую дзесяціну зямлі ці сенажаці ў арэнду, хто найме пасьвіска і г. д. Калі-ж маёнтак распарцэлюецца і пяройдзе ў рукі мазураў, дык ясна, усё гэта прападае. Вось чаму сучасная польская зямельная рэформа непажаданая для нас і вось чаму мы не павінны аб яе скасаваньні плакаць.

Беларускае сялянства, як галоўная маса Беларускага Народу, пасьля некалькістагодняе нядолі, цяпер адраджаецца і ўсьвядамляецца нацыянальна. Ясна, што гэтак як ёсьць наша справа, астацца ня можа. Адроджаны Беларускі Народ мусіць стаць гаспадаром сваей старонкі, а тагды пачне заводзіць свае парадкі, сваю зямельную рэформу. І калі станецца рэформа цяпер, дык трудней будзе змагацца з многалічбовым польскім калёнізацыйным элемэнтам, чым з абшарніцтвам.

Гаворачы аб тым і гэтым, я не сказаў, што нам рабіць.

Паводле маей асабістай думкі, усякая рэформа, якая прыходзіць да нас, як прадукт польскае дзяржаўнае творчасьці ня можа даць нам нічога карыснага. У гэтым мы добра пераканаліся.

А калі так, дык трэба арганізавацца, і арганізавацца толькі пад сьцягам Беларускага Сялянскага Саюзу, які змагаецца за правы Беларускага Народу, за тыя правы, якія робяць чалавека гаспадаром сваей долі. І калі мы будзем арганізаванымі, дык гэтым самым будзем пэўнымі, што здзейсьнім свае жаданьні і зрэфармуем сацыяльны лад гэтак, як трэба.

Р. Булат.

# Буржуазная справядлівасьць.

## Справа Сакко і Ванцэцьці.

Справа Сакко і Ванцэцьці на парадку дня бягучага часу заняла першае месца. Ужо ў працягу нейкага часу яна ня сходзіць з газэтных старонак. Мы дагэтуль абмяжоўваліся кароткімі заметкамі, чакаючы пагаварыць аб гэтым болей падрабязна па заканьчэньні справы. Аднак-жа заканчэньня справы ня відзім, дык мусім высьвятліць справу цяпер.

Сакко і Ванцэцьці, гэта Італьянцы, якія эміgravалі ў Амэрыку. Яны звычайныя работнікі, аднак-жа занялі выдатнае месца сярод работніцкіх масаў, дзеля таго, што па сваіх палітычных пераканаьнях падзялялі ідэю анархістаў.

Што такое ідэя анархізму?

А вось што: анархізм як яго шаблонна тлумачаць, дык гэта, — проста безуладнасьць. Быццам гэта звычайнае адхіленьне ўсякае ўлады. І праўда. Анархізм па сваім прынцыпам касуе ўсякую ўладу чалавека над чалавекам. Анархізм вучыць, што ня трэба ніякіх урадаў і наагул ніякіх установаў і інстытуцыяў, якія-бы рэгулявалі адносіны паміж людзьмі ў іх паўседнеўным жыцьці і працы. Дык як-жа так? можа хто запытацца. Калі гэтак дык паўстануць безпарадкі: хто дужшы той і лепшы? І праўды, калі скасаваць уладу цяпер, дык і здарыцца гэтак!.. Аднак-жа ня ў гэтым ідэя анархізму. Анархізм ня прызнае ўлады, аднак-жа ня прызнае і безпарадку. Анархізм вучыць, што чалавек павінен гэтак жыць, каб не баяўся нікога, каб быў незалежны і каб не паднявольваў нікога. Павінен працаваць столькі, колькі можа і мець усяго патрэбнага столькі, колькі трэба.

Вось гэтую ідэю пашыралі Сакко і Ванцэцьці. Ясна, што ўсё гэта вельмі не падабаецца капіталістым, фабрыкантам ды наагул буржуазіі, якая абсалютна нічога ня робіць, а мае ўваўсім вялікія лішкі. Не падабаліся буржуазіі Сакко і Ванцэцьці. Але калі яны не падабаліся буржуазіі, дык вельмі былі паважаны работніцкімі масамі.

У тым месьце, дзе жылі Сакко і Ванцэцьці здарыўся рабунак. Нехта зрабіў напад на магазын абутку, дзе забіў гаспадара і зрабаваў некалькі тысячаў даляраў.

Амэрыканская паліцыя западозрыла ў гэтым Сакко і Ванцэцьці; гэта здарылася ў 1920 годзе і знайшліся сьведкі, якія паказалі на Сакко і Ванцэцьці, як на запраўдных бандытаў. Аднак-жа былі і гэтакія сьведкі, якія даказвалі, што Сакко і Ванцэцьці ў гэтай справе зусім не вінаваты.

Амэрыканскі суд прысяжных абвінаваціў Сакко і Ванцэцьці і асудзіў на сьмерць, гэта было ў 1921 годзе. У сувязі з гэтым паўсталі пратэсты. Справа ня выясьнена, дык які-ж можа быць асуд?

Дзеля гэтага самага справу перадалі апэляцыйнаму суду. Але-ж і гэты суд зацьвердзіў папярэдні асуд.

Аставалася толькі, каб губэрнатар падпісаў асуд і даволі... І тут-то, дык і разыгралася трагедыя, якая ўстрывожыла ня толькі інтэлігенцыю, але-ж і некаторыя буржуазныя клясы. У працягу пяці гадоў, губэрнатар штату Масучызэта Фульлер ужо некалькі разоў вызначаў дзень забойства асуджаных, але-ж як прыходзіў апошні мамэнт, дык зноў адкладаў справу на некалькі дзён.

Калі мы ў сваіх думках паставім сябе на месца асуджаных на сьмерць Сакко і Ванцэцьці, дык што-ж мы можам сабе ўвабразіць? Безумоўна, найвялікшы жах! І вось, як мы можам назваць учынак амэрыканскіх уладаў, калі нам ведама, што пад гэтакім найвялікшым жахам астаюцца людзі няпраўна асуджанымі ў працягу пяці гадоў?

Гэтакі ўчынак амэрыканскае капіталістычнае ўлады мы назавём: праступкам проці боскіх і прыродных законаў. Гэта сцьвердзілі нават і буржуазныя газэты.

Апошнімі часамі казьнь Сакко і Ванцэцьці была вызначана на 10 жніўня. Увесь сьвет пратэставаў проці гэтага, дамагаючыся памілаваньня асуджаных. Пратэставалі, як маглі. І вось, у апошнія хвіліны, калі ўжо ўсё было гатова для казьні, дык губэрнатар Фульлер адлажыў справу казьні да 22 жніўня. Што будзе—нельга сказаць. Калі пішацца гэты артыкул, дык яшчэ справа не выясьнена. Ёсьць весткі, што Сакко і Ванцэцьці пераведзены ў камэру сьмертнікаў: знача іх заб'юць.

Магчыма, што заб'юць пасьля пяці гадовага зьдзеку над імі штомінутнаю пагрозаю сьмерці!.. Ці-ж гэта справядліва?

Але, гэтакімі зьдзекамі над людзьмі паказвае сваё запраўднае аблічча буржуазія, якая пануе над працоўнымі масамі.

Скарга.

## Казьнь Сакко і Ванцэцьці.

Сакко і Ванцэцьці, пасьля зьдзеку над імі ў працягу сямі гадоў і трыманьня іх пад пагрозай сьмерці, 22 г. жніўня, ня гледзячы на пратэсты ўсяго культурнага сьвету і працоўнае клясы, амэрыканскі буржуазна-капіталістычны ўрад казьніў.

## Падрабязнасьці казьні.

Адзіны прадстаўнік прэсы, якому дазволена было быць прысутным пры казьні Сакко і Ванцэцьці, карэспандэнт Амэрыканскае Прэсавае Асацыяцыі ў сваей справаздачы падае, што вастрог, дзе трымалі Сакко і Ванцэцьці, быў акружаны аружнаю паліцыяй. Апрача таго перад вастрогам былі выстаўлены кулямёты, гэтак забясьпячала сябе буржуазная ўлада, робячы ганебную справу.

Прабег казьні адбыўся спакойна. Сакко быў бляды, але трымаўся цьвёрда. Увайшоў проста з блішчачымі вачыма. Седзячы ўжо на электрычным крэсьле аклікнуў паітальянску: **„Няхай жыве анархія!“**, пасьля паангельску сказаў: „Выбачайце жонка, сын і прыяцелі“. Потым зьвяртаючыся да прысутных прагаварыў: „Выбачайце паны“ і нарэшце сказаў: „Выбачай матка“. Ванцэцьці ўвайшоў у салю сьмерці спакойна і цьвёрда, усціснуў рукі двом вастрожным старажом і падышоў сам да сьмяртэльнага крэсла. Тут пачаў гаварыць сцьвярджаючы, што ён нявінен; гутарку яму перарваў кат, які налажыў каску з электрычнымі праваднікамі. Апошнімі яго словамі было: **„Выбачаю ўсім тым, хто вінават у маей сьмерці“**. Пасьля казьні іх трупы перавезены былі ў пакойніцкую, дзе іх зрэвідавалі. Перад Сакко і Ванцэцьці казьнілі Партугальца Мадэйраса, асуджанага на сьмерць за рабунак і забойства банковага касіера.

### Пасьля казьні.

У сувязі з казьняй Сакко і Ванцэцьці, па ўсім сьвеце адбыліся маніфэстацыі. У Клевэляндзе (штат Огіё) выбухла бомба перад плебаніяй каталіцкага касьцёлу. У Сан-Францішка арыштавана 127 маніфэстантаў. У шмат якіх местах Злучаных Штатаў Паўночнае Амэрыкі паліцыя і войска пераведзена на баявы парадак. У Нью-Ёрку 6 ротаў пяхоты і 2 кулёмётныя каманды гатовы да мамэнтальнае дапамогі паліцыі, калі на гэта будзе патрэба. У Буэнос-Айрэс (Бразылія), як толькі надышла вестка аб казьні, дык маніфэстанты выбілі шыбы ў амэрыканскім консуляце і атакавалі каменьнямі фірмы, якія належаць да амэрыканскіх грамадзян. Паліцыя ня можа ўспакоіць маніфэстантаў.

У Жэнэве (Швайцарыя) адбыліся маніфэстацыі проці казьні Сакко і Ванцэцьці. У 11-ай гадзіне ўночы маніфэстанты выбілі шыбы ў амэрыканскім кансуляце, у амэрыканскім бюро падарожы і ў амэрыканскім готэлі; а таксама разьбіты шыбы і ў шклянай салі, дзе месьціцца сэкрэтарыят Лігі Народаў і адбываюцца паседжаньні Рады.

Пасьля казьні ізноў адбыліся маніфэстацыі, паліцыя і жандармэрыя не далі рады разагнаць натоўпу, толькі выклікаеая пажарная каманда, якая пажарнымі насосамі зьмусілі маніфэстантаў разыйсьціся. 10 чалавек арыштавана.

У Парыжы (Францыя) адбыліся дзьве маніфэстацыі перад гмахам амэрыканскагага пасольства. Разганяючы натоўп паліцыя страляла, у рэзультаце чаго некалькі чалавек ранена.

Падобныя-ж маніфэстацыі адбываюцца і ў іншых мясцох і дзяржавах.

Сакко і Ванцэцьці сталі сымболем змаганьня працоўнага народу з вызысківаючымі яго буржуазна-капіталістычнаю клясаю. Яны сталі гэтакімі самымі мучанікамі за ідэю працоўнае клясы, як мучанікі за хрысьціянства.

### Агульныя заметкі.

У судовай расправе над Сакко і Ванцэцьці прызнаюць несправядлівым асуд з пункту юрыдычнага гледжаньня, на'т інтэлігэнтныя прадстаўнікі буржуазнай адвакатуры. Аднакжа ня гледзячы на гэта амэрыканскі суд асудзіў на сьмерць Сакко і Ванцэцьці, а ўрад выканаў асуд. У чым прычына? Прычына ў тым, што буржуазія казьніла ідэйных анархістаў Сакко і Ванцэцьці толькі дзеля таго, што яны анархісты, якіх палічыла небясьпечнымі элементамі для капіталістычнага ладу. Ці забясьпечыла буржуазія сябе гэтым? Не!

Цяпер працоўная кляса мае сымболь змаганьня і прычыну помсты. Казьнь Сакко і Ванцэцьці—гэта іскра, якая не згасьне ніколі, а заўсёды будзе запаліваць агонь, які будзе грэць змагарскі рух працоўнае клясы з яе душыцелямі.

# З жыцьця Польшчы.

### Гандлёвы балянс.

За ліпень месяц г. г. гандлёвы балянс Польшчы ізноў не пажаданы. Прывезена ў Польшчу тавараў на 136 мільёнаў, а вывезена на 113.911 злотых, г. зн. прывезена ў Польшчу на 22 мільёны злотых у золаце болей як вывезена. Гэтакія рэчы сьведчаць аб благім гаспадарчым палажэньні дзяржавы. Дзе ўзяць гэтыя 22 мільёны золатам, каб выплаціць заграніцы? На Палесьсі яшчэ-ж не здабылі золата!...

### Польскія сацыялісты.

У сувязі з забойствам Сакко і Ванцэцьці польскія сацыялісты таксама быццам пратэстуюць проці акту капіталістычнай несправядлівасьці, бо, бачыце, яны, дык бароняць вольнасьць. Як польскія сацыялісты бароняць вольнасьць, нам добра ведама хоць-бы з прыкладу соймавае працы. Тут, абаронцы вольнасьці дык выказваюць сябе акурат не абаронцамі, а душыцелямі вольнасьці. Польскія сацыялісты ў адносінах да нацыянальных меншасьцяў увесь час робяць тое самае, што і рэакцыя польскіх партыяў.

Але-ж найцікавейшым з усяго польска-сацыялістычнага пратэсту проці казьні Сакко і Ванцэцьці зьяўляюцца гэтакія вось тэзы: „Не казьнілі-б Сакко і Ванцэцьці, калі-б работніцкая кляса Злучаных Штатаў была так сільна арганізацыяй і сьвядомасьцю, як у Эўропе. На жаль відзім, што тэй сілы і патрэбнага ўплыву на палітыку Штатаў, амэрыканскія работнікі яшчэ ня маюць“.

Гэта, дык праўда, але-ж гэная праўда польскіх сацыялістаў, калі яны гавораць аб сіле эўрапэйскіх работнікаў, (а ў тым і польскіх), у адносінах да іх самых, запраўды выклікае сьмех. І вось чаму. Як ведама, манаполь на работніцкі рух у Польшчы належыць сацыялістам. Сацыялісты цяпер знаходзяцца ў востраай апазыцыі да ўраду марш. Пілсудскага. Сацыялісты ўвесь час на старонках сваей газэты задаюць рожныя пытаньні ўраду і закіды і вось на гэтую ўсю пісаніну сацыялістаў урад нават і крывым вокам не гляне. Гэта, дык сіла! Гэта, дык уплыў на палітыку паноў польскіх сацыялістаў!...

# НАВІНЫ.

— **Беларускі Народны Тэатр у Рубяжэвічах.** З Гарадзеі, Несьвіськага пав. Беларускі Народны Тэатр Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры дня 25-га жніўня пераехаў ў м. Рубяжэвічы Стаўпецкага пав. У Рубяжэвічах, так як у іншых мястэчках будзе пастаўлена некалькі спэктакляў. Першы спэктакль адбудзецца у суботу 27-га жніўня. Тэатр разьлічае ў Рубяжэвічах на вялікі пасьпех, бо у дзень прыезду трупы мясцовае жыхарства наладзіла артыстам урачыстае спатканьне.

— **Спадароў „Народ“.** Надовячы выйшаў з друку № 1 часопісі „Народ“ пад фармальным рэдактарствам М. Станкевічыхі, жонкі спадара. Дзеля таго што гр. М. Станкевічыха ня толькі пісаць, але і сказаць пару слоў пабеларуску ня можа (чэшка па нацыянальнасьці), дык фактычна часопісь выйшла пад рэдактарствам спадара Янкі Станкевіча. Спадар сваей часопісі, названай „Ворганам Беларускага Сял. Саюзу“ даў волю выключна сваім найніжэйшым інстынктам, якія выйшлі „на зьверх“ дзякуючы грашовай дапамозе з асабістых сум Луцкевіча.

Часопісь выпаўнена выключна лаянкай, бо іншага матэрыялу, як прызнаецца сама часопісь, не хапіла! Кожны каму трапіць у рукі спадароў „Народ“ толькі зьдзівіцца, да чаго можа спадлець чалавек! Рэч ясная, што з такой часопісяй ня ўступаем у палеміку.

— **Пасол Рагуля ў Жэневе.** Вызначаны Беларускім Нацыянальным Камітэтам пасол Рагуля, разам з Украінскімі прадстаўнікамі, 19-га жніўня выехаў у Жэневу (Швайцарыя) на кангрэс нацыянальных меншасьцяў.

— **Доўга чакаць!...** З плёткаў абшарніцкага „Słowa“, аб пас. Рагуле, хоча скарыстаць „Наша Праўда“ толькі чакае запярэчаньня. Дзеля таго, што пас. Рагуля цяпер заграніцаю, дык доўга прыдзецца чакаць!...

Відаць, што факт-рэдактара, гэтая чаргавая плётка вельмі зацікавіла, дык у гэтакім „настрою“ надта цяжка будзе прачакаць тыдзень-два часу. Бо калі п. Рагуля вернецца з Жэнэвы яшчэ ня ведама.

Здаравей было-б п. факт-рэдактару „Нашае Праўды“, каб цікавасьць аб плётцы пакінуў і ніякае сэнсацыі у сваім „здаровым“ ўваабражэньні не тварыў.

— **Плёткі.** Віленскае абшарніцкае „Słowa“ зьмясьціла плётку быццам пасол Рагуля (Старшыня Беларускага Сялянскага Саюзу) пераходзіць да палянафільскае паўлюкевічавае Рады.

Парадаваныя сваею плёткаю, абшарніцкія пісакі зьвярнуліся да Паўлюкевіча за падрабязнымі інфармацыямі. І „понимаете ли“, „доктар“ Паўлюкевіч ня мог нічым парадаваць сваіх прыяцеляў.

Паўлюкевіч заявіў, як падае „Słowo“, што гэта немагчыма, бо вельмі вялікая розьніца ў паглядах паміж Рагуляю і ім Паўлюкевічам.

Віленскія „Утро“ падае вестку, што паўстала у Вільні будка: „Клюб Беларускай Інтэлігенцыі“. Разумеецца змайстравалі гэтую будку паны палянафілы паўлюкевічаўскага „сорту“, ды умястоўскага „gatuuku“.

— **Ці ж гэта праўда?** „Беларускі Дзень“ падае, што: „выехаўшы ў свой час у Менск, беларускі пісьменнік Фр. Аляхновіч апошнімі часамі сядзеў у падвале Г.П.У., а цяпер высланы ў Салавецкі канцэнтрацыйны лагер“. У гэтай справе мы паставілі знак запытаньня дзеля таго, што Ф. Аляхновіч здаецца больш цікавіўся працай тэатру, як палітыкай, дык на мог папасьці туды, дзе вызначыў месца яму „Беларускі Дзень“.

— **Дзьве польскія рэчы.** Напісаць закон, гэта адна рэч, а ня выканаць—другая. Прынамсі гэтакага парадку трымаюцца польскія дзяржаўна ўрадовыя колы і паасобныя кіраўнікі. Прыкладам гэтага зьяўляецца гэтакае вось здарэньне: Беларуская кнігарня ў Вільні на Вострабрамскай вул. № 2, пасылаючы ў Вішнева поштаю пакет, заадрэсавала, згодна „языковых уставаў“ назоў пошты папольску, а рэшту адрэсу пабеларуску. Але-ж сталася тое, што не павінна быць, а іменна? Вішнеўскі кіраўнік пошты зьвярнуў пакет у кнігарню з сваім надпісам, вяртаецца дзеля таго, што нечытальны адрэс. Загадчык кнігарні зьвярнуўся, у мэтах спраўджэньня, да паштовае дырэкцыі з запытаньнем, ці не скасаваны „языковы“ закон? У дырэкцыі яму адказалі, што закон астаецца ў сіле. Ну, дык чаму-ж, пытаецца кнігар, вось здарылася гэтакая штука? і паказаў пры гэтым пакет з абаротным надпісам кіраўніка пошты ў Вішневе.

Ня маючы што казаці, у паштовай дырэкцыі параілі кнігару падаць жалабу, а справа будзе разгледжана і вінаваты пацягнены да адказнасьці. Ну, і на гэтым тым разам скончылася. Што-ж вынікае з гэтага? Перадусім, як пісана на пачатку, разходжаньні паміж выдаваньнем і не выкананьнем закону,—ёсьць тэндэнцыяй ў бок шавінізму і злой воляй кіраўніка пошты. Беларуская нацыянальна сьведамасьць, з упорнаю рашучасьцю, трымаецца свайго ў кіраўнікоў кнігарні, а гэта сьведчыць, што Беларусь ня фікцыя, а жывы арганізм, які трэбуе свайго. У гэтакіх праявах, сьвядомасьці сваіх правоў—залог нашай лепшай будучыні.

# КАМУНІКАТ
### Беларускага Сялянскага Саюзу.

У дадатак да Камунікату Сялянскага Саюзу ад 20 чэрвеня с. г. (Сял. Нів. 49) у справе самазваннай і злоснай акцыі Янкі Станкевіча і ў сувязі з выхадам у Вільні № 1-га часопісі „Народ“ ад 18 жніўня с. г. фальшыва называнай „Ворганам Беларускага Сялянскага Саюзу“ гэтым выясьняем наступнае:

Ані гр. Янка Станкевіч, ані яго жонка Марыя, рэдактарка часопісі „Народ“, ані нейкая падстаўная асоба Шавелянка ня былі сябрамі Бел. Сял. Саюзу і цяпер імі не зьяўляюцца. Выступленьне гэтай тройкі ад імя Бел. Сял. Саюзу, зьяўляецца самазванным, пазбаўленым этычных асноў, чынам, якога могуць дапусьціцца толькі асобы, якія не карыстаюцца сярод грамадзянства ніякай пашанай.

Уся правакаторская акцыя гэтай тройкі інспіруецца чужынцамі, якія баяцца разросту сялянскае арганізацыі—Беларускага Сялянскага Саюзу. Чужынцы стварылі ўжо некульні асобных груп, якія ўвесь час вялі і вядуць разбураючую працу сярод беларускага нацыянальнага адраджэнскага руху, але бачачы малы пасьпех у гэтай цёмнай рабоце, кінуліся на самы найніжэйшы этычна спосаб барацьбы, бо стварылі групу з тым самым назовам, проці якога увесь час вядуць нягодную работу.

**Усё сялянства павінна ведаць, што істнуе толькі адна запраўды сялянская партыя—гэта Беларускі Сялянскі Саюз на чале з пасламі В. Рагулей і Ф. Ярэмічам, а адзіным органам Сялянскага Саюзу зьяўляецца „Сялянская Ніва“.**

Часопісь „Народ“ не зьяўляецца органам Б. Сял. Саюзу, а органам правакатарскай шайкі, якая добрым імем Беларускага Сялянскага Саюзу, хоча спэкуляваць і пабуджваць найніжэйшыя інстынкты сярод найцямнейшых элемэнтаў проці беларускага руху.

Але гэтай нягоднай працы мы — арганізаваныя сяляне, дамо адпор і выведзем усё беларускае сялянства на шлях поўнага нашага вызваленьня.

**Цэнтральны Камітэт
Беларускага Сялянскага Саюзу.**

Вільня, 24. VIII. 1927 г.

*Ніколі не зьнішчажай газэты, прачытаўшы дай яе суседу!*

# Што дзеецца ў сьвеце?

### Падзеі ў Кітаі.

У кітайскіх падзеях здарыўся гэтакі паварот, якога ніхто не чакаў. Паўночная армія здавалася была аканчальна пабіта. Чанг-Кай-Шэк падходзіў зусім пад Пэкін. Здавалася, што Чанг-Тсо-Ліну пагражала роўнае банкруцтва. Аднак-жа неяк усё пашло інакш, бо цяпер мы відзім: поўную перамогу Чанг-Тсо-Ліна над Чанг-Кай-Шэкам, які пакінуў астаткі арміі і выяжджае за межы Кітаю. Яго былая армія частка перашла да Чанг-Тсо-Ліна, а частка разьбеглася і разьбілася на паасобныя групкі. Сталіца паўднёвага ўраду Нанкін ужо занята арміяй Чанг-Тсо-Ліна.

Аднак-жа нельга сьцвердзіць, што пасьля гэтакіх пасьпехаў Чанг-Тсо-Ліна закончыцца аружная барацьба ў Кітаі. Там гэтак усё залежыць ад капрысаў лёсу, што можна спадзявацца самых сэнсацыйных здарэньняў і выпадкаў.

### Кангрэс нацыянальных меншасьцяў.

У Жэнэве 22 г. жніўня распачаўся кангрэс нацыянальных меншасьцяў. Кангрэс адчыніў дэпутат італьянскага парляманту Славенец д-р Вульфан. На парадку дня кангрэсу знаходзяцца гэтакія пытаньні: 1) аб міжнародавым супрацоўніцтве нацыянальных меншасьцяў, 2) аб нацыянальных перасьледаваньнях з боку валадыроў над меншасьцямі, 3) аб мовах і правах нац. менш. і 4) аб заснаваньні заўсёднага сэкрэтарыяту пры Лізе Нацый.

Кангрэс мае закончыцца 24 г. жніўня. Усяго прысутных на кангрэсе ёсьць да 100 дэлегатаў ад рожных народаў.

### Ліга Нацый.

Як ведама, Ліга Нацыяў паўстала дзеля таго, каб рэгуляваць узаімаадносіны паміж усімі дзяржавамі плянэты. Галоўнаю яе мэтаю было разаружэньне. Аднак-жа гэтая мэта разьвеялася, як дым. Дык цяпер толькі і робяць дзяржавы, што загатаўляюць розныя прылады для вайны. У адным нумары загранічнае газэты адразу знаходзім весткі аб пабудаваньні Амэрыкаю новых караблёў, аб пабудаваньні Англіяй новых танкаў, аб павялічэньні Італіяй паветранага флёту і г. д.

Як відзім, дык Ліга Нацыяў не апраўдала сваіх мэтаў, аднак-жа паседжаньні адбываюцца. Гэтак вось 5 верасьня мае адбыцца сэсія Лігі Нацыяў. Што там будзе—няведама, але-ж, тое што нічога карыснага ня створыцца, дык гэта—бязумоўна, праўда.

### Два зьезды.

Нядаўна ў м-ку Вэлеградзе (Чэхаславакія) адбыўся вуніяцтычна-каталіцкі зезд. На гэтым зьездзе былі прысутнымі прадстаўнікі ад каталікоў і вуніятаў.

Цяпер вось адбываецца другі з'езд у Лазанне (Швайцарыя) дзе сабраліся прадстаўнікі ад усіх хрысьціянскіх (апрача каталіцкіх) касьцёлаў, царкваў і сэктаў. Там ёсьць і праваслаўныя, і лютаране, і англікане і мэтадысты, і бабтысты і наагул ад розных протэстанскіх групаў.

На абодвых гэтых зьездах вяліся і вядуцца гутаркі аб злучэньні хрысьціянства ў адзіную царкву, ці прынамсі направіць і ўрэгуляваць узаімаадносіны пазбыўшы варожасьць.

І вось што здараецца: Ня гледзячы на тое, што ўсе кіруюцца аднэй эвангеліяй, ня могуць ніяк дайсьці да паразуменьня і здаецца на перашкодзе стаяць не столькі догматы хрысьціянства, колькі адміністрацыйнае кіраўніцтва. Кожны духоўнік хоча быць першым перад Богам і выстаўляе сам сябе на гэтае першынство.

У адказ на кампамісную прапанову, Рымскі Папа адказаў, што ён мае адзіны запраўды апостальскі сусьветны касьцёл, дык ня можа быць і гутаркі аб кампрамісе. Можа быць толькі капітуляцыя іншых і падпарадкаваньне пад яго верхаводную руку.

Разумеецца, што на гэтакіх асновах ніякага злучэньня быць ня можа, бо магчыма гаварыць аб паразуменьні, але-ж на прынцыпу кампрамісу, а не капітуляцыі, чыей-бы то ня было. Ужо гэтакі, відаць, парадак пануе на сьвеце.

### Дзесятыя ўгодкі бальшавіцкай рэвалюцыі.

Ня гледзячы на тое, што яшчэ тры месяцы раздзяляюць савецкую ўладу ад 25 кастрычніка—дзесяцігодзьдзя кастрычнікавага пераварату, уся Савецкая Расея пасьпешна гатуецца да юбілейных урачыстасьцяў.

Па ўсіх местах і мястэчках заснаваны юбілейныя камітэты, мэтай якіх зьяўляецца падгатоўка.

Днямі ўрачыстасьці адбудуцца шматлічбовыя мітынгі, канцэрты, лекцыі, на якіх будуць чытаны даклады аб здабычах рэвалюцыі, як у Расеі, так і заграніцаю.

У памяці народных мас будуць абноўлены ўсе этапы рэвалюцыйнай барацьбы з 1917 году. Дзеля гэтага ўрачыстасьці маюць адбыцца пры ўдзеле ўсіх афіцыяльных савецкіх арганізацыяў, прафэсыянальных саюзаў, коопэратываў, арганізацыяў работніц і сялянак, краснай арміі і ўсіх грамадзкіх установаў.

Праграма юбілейных урачыстасьцяў прыблізна будзе гэтакая: 1) Палітычная дэманстрацыя, 2) інсцэніроўка палітычных здарэньняў, 3) маніфэстацыі і дэманстрацыі эканамічных, палітычных, культурных і грамадзкіх здабычаў рэвалюцыі і 4) работніцкія мітынгі.

У юбілейных урачыстасьцях прыме дзейны ўдзел і савецкае дзяржаўнае кіно.

### Згода.

Паміж савецкаю ўладаю і расейскім мітрапалітам Сяргеем у Маскве запанавала згода і поўнае паразуменьне. Мітрапаліт прызнаў савецкую ўладу запраўднаю і фактычнаю расейскаю ўладаю, а Саветы забавязаліся гарантаваць вольнасьць праваслаўнай царкве. У блізкім часе Саветы выдадуць адпаведны закон, які будзе рэгуляваць правы царквы.

Расейская эміграцыя газэты на гэтае здарэньне маюць самыя розныя пагляды: адны прызнаюць, што гэтак і павінна быць, а другія бачаць у гэтым новы паход проці праваслаўнае царквы.

Праваслаўнае расейскае духавенства на эміграцыі склікае духоўны сабор, на якім разгледзіць вышэй паданую справу і прыме адносную пастанову.

### Паўстаньне на Яве.

Ява, гэта выспа на Індыйскім акіяне. Жыхарства гэтае выспы Явайцы, якія маюць сваю асобную мову і звычаі, але-ж знаходзяцца пад панаваньнем Гальляндыі. Як і ўсякаму народу, таксама і Явайцам цяжка насіць чужацкае ярмо, а дзеля гэтага самага і разумеецца, што Явайцы шукаюць ратунку. Ужо некалькі разоў Явайцы пробавалі паўстаць, каб здабыць вольнасьць, аднак-жа вызваліцца ім не ўдавалася. Спробы вызваленьня Явайцаў з-пад чужацкае залежнасьці гэтак напужалі гаспадароў-Гальляндцаў, што яны на кожным кроку кожнага Явайца бачаць паўстанчыя намеры і чапляючы да ўсяго гэтага камунізм,—тасуюць рэпрэсіі. У некалькіх мясцох адбываліся явайскія вясельлі, дык вось ў гэтых урачыстасьцях паліцыя ўбачыла намер Явайцаў да паўстаньня. А калі так, дык і справакавала паліцыя паўстаньне Явайцаў. Сышчыкі хацелі арыштаваць на адным вясельлі падазроных асобаў, а гэта выклікала незадаваленьне сярод масы.

Галоўным арганізатарам паўстаньня зьяўляўся бышы гальляндскі афіцэр Дэ-Жэр. Паўстанцы мелі на мэце абвясьціць незалежную явайскую рэспубліку. Рэч ясная, што вольнасьць даражэй усяго, дык і ня дзіва, калі людзі, будучы ў няволніцтве вырашаюць справу цаною свайго жыцьця—быць або ня быць.

### Франка-Нямецкі дагавор.

Гэтымі днямі Французы і Немцы падпісалі дагавор, якім наладзілі гандлёвыя адносіны паміж двумя дзяржавамі.

Падпісаны дагавор выклікае ў французкіх эканамічных колах вялікае задаваленьне,—а ўся публічная апінія заняла прыхільнае становішча да дэлегацыі, якая вяла і падпісала гандлёвы дагавор.

Шмат хто лічыць гэтае здарэньне пачаткам новае эры ў франка-нямецкіх адносінах, бо быццам гэты дагавор зьяўляецца значным крокам наперад на шляху замацаваньня агульнага спакою.

А вось Палякі з Немцамі ніяк ня могуць прысьці да паразуменьня адносна гандлёвага дагавору. Відаць што Французы больш гібкія і палітычна зьдальнейшыя за Палякаў.

### Літоўскі гандлёвы баланс.

Часта прыходзіцца спатыкаць заявы польскага грамадзянства, аб тым, што Літва ня можа існаваць самастойна-незалежна, толькі дзеля таго, што Літва знаходзіцца ў благім эканамічным стане, бо няма вугальля, нафты, солі і г. д.

Справа іншая з Польшчаю? Аднак-жа заявы польскага грамадзянства зьяўляюцца проста беспадстаўнымі. Эканамічна-гаспадарчае палажэньне кожнае дзяржавы найлепш можна мерыць гандлёвым балянсам. Як мы ўжо падавалі, дык у працягу некалькіх месяцаў Польшча прывозіць тавараў з заграніцы болей як вывозіць. Гэтае зьявішча ў дзяржаўным жыцьці вельмі не пажадана. І тут, дык акурат сталася нешта іншае ў адносінах да Літвы.

Як падае польская газэта „Słowo", дык за месяц ліпень вывезена з Літвы на 129,8 мільёнаў літаў (гэтак называюцца літоўскія грошы), а прывезена ў Літву на 120 мільёнаў літаў, гэта знача, што вывезена з Літвы на 9.800 тысяч літаў болей, як прывезена. Гэтакі гандлёвы балянс пажаданы і прыемны для кожнай дзяржавы. Як відзім, дык эканамічна-гаспадарчае жыцьцё Літвы знаходзіцца ў лепшым палажэньні чым палажэньне Польшчы.

# З Радавай Беларусі.

### Пасылка хадакоў.

За апошні справаздачны час (6 тыдняў) з БСРР выехала 852 хадакоў ад 28,138 чалав. Найбольш хадакоў з Барысаўскай, Віцебскай і Гомельскай акругаў.

Большасьць хадакоў накіравалася ў Сібір (705 чал.), на Урал (63 чал.) і на Далёкі Усход (84 чал.).

Для Беларусі адпушчана зямлі: ў Сібіры 19.000 душавых доляў, на Урале —5.500 і на Далекім Усходзе—3.493.

Усе зямельныя фонды, адпушчаныя для БССР у Сібіры і на Далёкім Усходзе, ужо размаркованы. Засталіся вольныя вучасткі толькі на Урале (60 проц.).

### Беларускае школьніцтва ў Смаленшчыне.

Сетка беларускіх школ I ступені ў Смаленшчыне павялічваецца ў 27—28 нав. г. на 100 прац. Для гэтых школ патрэбна падрыхтаваць настаўнікаў і Смаленскі губ. А.Н.А. супольна з Н.К.А. Р.С.Ф.Р. адпусьцілі сродкі на перападрыхтоўку. З 25 ліпня г. г. арганізаваны курсы па перападрыхтоўцы беларускага і жыдоўскага настаўніцтва.

### Халера.

Нямецкія і некаторыя другія заграничныя газэты і польскія таксама ўжо у працягу нейкага часу пішуць,— быццам у Радавай Беларусі, пераважна па местах, зьвілася халера.

### Новая супалка.

Утварылася новая Беларуская супалка „Праблісск".

Закладчыкамі арганізацыі зьяўляюцца наступныя грамадзяне: Янка Бобрык, Алесь Гурло, Алесь Звонак, Ізраіль Плаўнік і інш.

Супалка распачала працу: будзе выдаваць альманахі і зборнікі паасобных сяброў.

Паміма гэтае супалкі, ёсьць яшчэ дзьве: „Маладняк" і „Узвышша". Але наколькі ведама, дык здаецца, што і ў гэтых супалках тыя самыя уходзяць асобы што і ў „Пробліск".

### Жыхарства Радавай Беларусі.

Цэнтральны статыстычны ўрад Радавай Беларусі закончыў працу аблічэньня нацыянальнага складу Радавай Беларусі. Усяго агулам жыве 4.983.168 чалавек. Жанчын на 103 тысячы ёсьць больш як мужчынаў. Па асобным нацыянальнасьцям будуць гэтакія цыфры: Беларусаў 80,62 проц., Жыдоў 8,17 проц., Расейцаў 7,7 проц. і Палякаў 1,96 проц.

Мы ня ведаем якім парадкам тварылася аблічэньне, аднак-жа можна сьцвердзіць, што лічба Беларусаў усё-ж такі вельмі паважная. Так ці інакш гэта сьведчыць аб шырокай сьведамасьці сярод Беларусаў.

# Гаротная наша доля!

Як мы ўжо падавалі ў адным з папярэдніх нумароў нашае газэты, сёлета некалькі асобаў закончылі вышэйшую навуку. Закончылі, дык знача і трэба працаваць... Але вось тут дык і якраз здарыцца, што ня гледзячы на вышэйшую адукацыю цяжка будзе нашым маладым вучоным знайсьці працу, якая бы прыносіла карысьць Бацькаўшчыве-Беларусі і давала неабходныя сродкі на пражыцьцё ім самым. Як, дзе і што будуць рабіць нашыя маладыя вучоныя—нам яшчэ ня ведама, але-ж наперад можна зрабіць зусім трафныя вывады, што іх чакая барацьба і змаганьне за тое, каб знайсьці месца прыкладаць сваю працу...Чаму? можа ўжо ўсё зроблена, можа Бацькаўшчына-Беларусь ня мае месца для сваіх вучоных? Не! Працы многа, але-ж на вялікі жаль, няма ўвідаць гэтакае гаротнае наша доля, што пры існуючых варунках нельга працаваць, гэтак працаваць, каб быць карысным свайму Народу.

Для характарыстыкі нашага і нашых вучоных палажэньня падамо вось прыклад з вучонымі, якія пакінулі сьцены ўнівэрсытэту у леташнім годзе. Было іх тры: Туронак, Дварчанін і Я. Станкевіч.

Першы з іх д-р лякарскіх навук Туронак, неяк прыстроіўся пры літоўскай клініцы, дзе і зарабляе неабходны кавалак хлеба. Вольны час, д-р Туронак аддае беларускай грамадзкай працы, працуючы ў Белар. Інстытуце ды іншых арганізацыях. Таксама неяк прыстаў да берагу і доктар філялёгіі Дварчанін. Ён, працуе ў Беларускім Навуковым Т-ве і іншых беларускіх культурных арганізацыях. Д-р Дварчанін апрацаваў „Беларускую Хрэстаматыю" і наагул, як ведама, працуе над навуковымі дасьледамі нашае мовы і літаратуры.

Найгорш здарылася з Я. Станкевічам, які маючы дыплём доктара філялёгіі „балтаецца", як кажуць часта „у паветры". За больш як гадовы працяг часу Я. Сатнкевіч пераманіў

некалькі месцаў працы і нарэшце, доктар філялёгіі, ўзяўся за тварэньне палітычнае партыі.

Хто тут вінават: ці гаротная наша доля ці сам Я. Станкевіч? Судзіць неяк вельмі цяжка, аднак-жа мусім сьцьвердзіць, што праўдападобней будзе, калі скажам: што вінават у тым, (што доктар філялёгіі хапіўся за палітыку), і сам Я. Станкевіч і наша сучаснасьць. Вінават сам Я. Станкевіч у тым, што замест таго, каб працаваць над апрацоўкаю нашае жывое мовы, пачаў капацца ў архіве ды выцягаваць адтуль анахраізмы, ды наагуль усякую мертвячыну, а дзеля гэтага самага робіць тое, што нікому не патрэбна: Прыслужыўся толькі „Маланцы“, якая напісала некалькі фэльетонаў, ды пацешыла гэтым гумарам сваіх чытачоў. Яшчэ і цяпер калі прачытаеш тыя фэльетоны, дык пасьмяешся як належыцца. Вінавата-ж у „нядолі“ Я. Станкевіча наша сучаснасьць у тым, што дала магчымасьць Я. Станкевічу тварыць „палітыку“. Знача і на яго працу нашоўся купец, які выкарыстаў гэты тавар, (працу Я. Станкевіча) на тое, каб баламуціць Беларускі Народ даволі няўдалаю „палітыкаю“.

Дык вось якая доля спаткала нашых вучоных у леташнім годзе! Што здарыцца з сёлетнім?—цяжка гадаць. Цяжка дзеля таго, што беларускія грамадзкія ўстановы гэтак існуюць, што ня маюць магчымасьці выкарыстаць сваіх навучных сілаў па сутнасьці.

**Ст. Рубель.**

## Да грамадзян і паўнамоцнікаў,

### складаўшых дэкларацыі на ўрадавыя беларускія школы на 1927-28 школьны год.

У сувязі з распараджэньнем Міністра Рэлігійных Спраў і Публічнае Асьветы з 7.I. 1925 году на падставе ўставы аб арганізацыі беларускага школьніцтва з 31.VII. 1924 г., школьны інспэктар разглядзеўшы дэкларацыі, **не пазьней 32 траўня** (мая) робіць сваё заключэньне із усімі матэр'яламі і справу перадае куратару. На падставе дадзеных інспэктарам прапазыцыяў, куратар **у працягу месяца** рашае аб мове навучаньня ў тэй ці іншай школе і аб сваім рашэньні праз абвестку **паведамляе заінтэрасаваную люднасьць.** Апрача таго, аб сваім рашэньні куратар паведамляе аднаго з тых бацькоў, якія жадаюць навучаньня сваіх дзяцей у беларускай мове і аднаго з тых, якія жадаюць навучаньня сваіх дзяцей у польскай мове.

Пастанову куратара бацькі могуць абжалаваць да міністра асьветы ў працягу 14 дзён, ад дня паведамленьня праз абвестку.

Усе грамадзяне і паўнамоцнікі школьных абводаў, склаўшыя дэкларацыі на ўрадовую беларускую школу на 1927-28 школьны год, павінны **дамагацца праз школьных інспэктараў пастаноў куратара** (калі куратар сам не паведаміў) у справе арганізацыі беларускіх урадавых школаў на 1927-28 шк. год.

Пажадана было-б, каб паўнамоцнікі школьных абводаў, а там гдзе паўнамоцнікаў няма, то бацькі, у ліку двох, **даведаліся-б** у вышэйсказанай справе **ў мясцовага школьнага інспэктара асабіста,** але, калі значная адлегласьць школьных абводаў ад мясцовых інспэктараў гэтаму перашкаджала-б, то хай зварочваюцца **пісьменна** (заказнымі пісьмамі) з цьвёрдым дамаганьнем пастановы куратара ў справе адчыненьня беларускіх урадавых школаў на 1927-28 школьны год.

УВАГА: Пад славамі: „школьны абвод“ разумецца бліжэйшыя вёскі, якія зложылі дэклярацыі агулам на 40 дзяцей. Таксама будзе будзе лічыцца школьным абводам і адна вёска, сяляне якой зложылі дэкляраціы на 40 дзяцей.

**Галоўная Управа**
**Т-ва Беларускае Школы.**

## Польская рэлігійная місія на нашых землях.

Калі ўжо сам чалавек прызнаецца да віны, дык факт, што ён вінават, а гэта вось, акурат і робяць польскія газэты, перадусім абшарніцкае, манархістычнае віленскае „Słowo“:

„У апошнім месяцы,—піша „Słowo“,— раз-за-разам добра ўкладуючую гармонію рэлігійнага сужыцьця ў нашым краю замуціў без патрэбы нямілымі, а на'т і немаючымі назову шкоднымі для касьцёла і дзяржавы дзеямі гвалту і брутальнымі ўчынкамі кс. канонік Барадзіч, які прыбыў да нас у місіі з Сан-Рэма і быў назначаны духоўнымі ўладамі ў Дзісенскі павет, пад самую польска-савецкую граніцу, дзе кожны ўчынак польскага грамадзяніна, духоўніка ці ўрадоўца вырастае ў сымбалічныя вымеры, які гавора аб нас чым мы зьяўляемся адзначаючы, а прынамсі мусіць адзначыць, што на нашым баку распачынаецца іншы сьвет, вельмі адменны і з вялікімі розніцамі ад таго, што творыцца бяз волі народу за Дзьвіною, на землях сучаснага Саюзу Савецкіх Рэспублікаў.

Ня будзем паўтараць падрабязнасьцяў вырубаньня ксяндзом Барадзічам дрэваў на супольным каталіцка-праваслаўным магільніку ў Леванполі на патрэбу новабудаванага там каталіцкага касьцёлу, бо лічым, што вырубаньне тых сталетніх дрэваў было аднолькаваю прафанацыяй магільніка (абразаю—знеслаўленьнем) як каталіцкага, так і праваслаўнага, было недапушчальным парушэньнем спакою, які панаваць павінен на месцы вечнага спачынку, на тым месцы, з якога нават дзіця з маральным пачуцьцём не зломіць галінкі, не сарве красачкі з кветачкаў, ня возьме маліны ці паземкі. Ня будзем паўтараць таго здарэньня, якое прыслужылася кс. Барадзічу, як забарона пахаваць на супольным магільніку праваслаўнага нябошчыка, бо бачым у гэтым праяву поўнага пагвалчэньня праў нябошчыка ў прыязьні і вернасьці для сваей веры хрысьціяніна, які хацеў быць пахаваным у асьвенчанай зямлі, замест у прыдарожным бязбожным рове“.

Калі ня хоча паўтараць гэтага польскае „Słowo“, дык паўтараем мы. Вышэй паданыя факты выразна сьведчаць аб тых зьдзеках, якія пануюць над намі Беларусамі. Гэтыя ўчынкі духоўнае ўлады зафіксіраваныя на шпальтах польскіх-жа газэтаў зьяўляюцца дакуманнальным даводам на поўнае пагвалчэньне нашых правоў, з боку прадстаўнікоў польскае ўлады. Гэта сцьвярджае сама-ж польская газэта „Słowo“, ды іншыя!

Усе свае праступныя ўчынкі кс. Барадзіч грунтуе вось на чым: „У віленскай сэмінарыі, за часоў царызму, вучылі нас, што каталіцкі духоўнік павінен навучыць людзей выключна рэлігіі. Гэта зразумела. Але цяпер, калі каталіцкая Польшча ўваскросла, мне здаецца, што дэвізам ня толькі польскіх грамадзян але-ж і духавенства павінна быць „Бог і Айчызна“.

І вось, „згодна гэтага максымуму, — як піша „Przegląd Wilenski“ — кс. Барадзіч дамагаецца зачыніць праваслаўную царкву ў Леванполі, як шкадлівай для Польшчы і аддаць яе як найхутчэй каталікам, разам з парафіяльнаю зямельнаю маемасьцю“.

І гэтакім вось сродкамі кс. Барадзіч абавязуецца „прывясьці да ног Я. Э. натоўпы новых каталікоў і здабыць сыноў Айчызьне“.

І гэта ўсё творыцца іменем Божым і іменем яго сына Хрыста, які, як ведама, забараніў ўсякае безпраўе і захопнасьці.

## *Ад Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры.*

*Грамадзяне Беларусы!*

*Падавайце дэклярацыі на беларускія школы, згодна інструкцыяў Інстытуту, зьмешчаных у № 61 „Сял. Нівы.*

*Выясьніце рэзультаты ўжо зложаных дэклярацыяў.*

*У ўва ўсіх справах зьвяртайцеся да Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры (Вільня, Завальная 6—5).*

*Інстытут высылае друкаваныя блянкеты на дэклярацыі.*

## Замест фэльетону.

### Сварка ў палянафільскім балоце.

Як мы ўжо ня раз выясьнялі, у Заходняй Беларусі ёсьць дзьве палянафільскія газэты: „Беларускае Слова“ і „Беларускі Дзень“. Абедзьве гэтыя газэты выдаюцца за польскія грошы і маюць сваім заданьнем падгаварваць Беларусам, што няма на сьвеце лепшага жыцьця, як пад Польшчаю. Адным словам гэтыя дзьве газэціны паўсталі дзеля таго, каб крычаць: „Няхай жыве Польшча!“ Гэта яны рабілі і робяць, але-ж у адносінах адна да другое да гэтага часу трымаліся нэйтральна. Калі чытаць „Беларускае Слова“, дык можна падумаць, што „Бел. Дзень“ ня існуе. Гэтак сястронкі-палянафілкі трымаліся нэйтральна, безстаронна адна да другое. Але вось нядаўна зварухнулася палянафільскае балота, бо ў гэтым балоце разарвалася „бомба“ пад назовам „Беларуская Культура“ (кн. № 1). Ад разрыву гэтае „бомбы“ папалохаліся „жабы“ ў паўлюкевічаўскай частцы балота і раптам на ўвесь голас „заквакалі“.

Аб гэтай „бомбе“ і аб прычынах яе ўзрыва нам хочацца пагаварыць з чытачамі „Сялянскае Нівы“.

Мала „Бел. Дня“, бо сялянства ня слухае яго заклікаў, дык канцэсіянер на беларускасьць п. Ф. Умястоўскі распачаў выдаваць месячнік „Беларуская Культура“ і вось тут-то, робячы агляд беларускіх газэтаў, часопісь, паміж іншым, зьмясьціла гэтакія вось радкі:

„Антыподам „Нашае Праўды“ зьяўляецца газэта „Беларускае Слова“ орган Паўлюкевіча. Газэта „Б. С.“, як і ўся „група“ Паўлюкевіча, ня зьвязана ані маральна, ані ідэйна ані з воднаю польскаю дэмакратычнаю групаю, — хоць і лічыць сябе палянафільскай. „Палянафільства“ газэты штучнае, няглыбокае, няшчырае. Газэта больш цікавіцца расейскімі справамі, што асабліва яскрава выявілася ўва ўсей справе Кавэрды. Змагаючыся з камуністымі, газэта аднак вельмі прыхільна адносіцца да ўсякіх расейскіх партыяў. Такая пазыцыя Паўлюкевіча, з пункту гледжаньня беларускае нацыянальнае ідэалёгіі, не вытрымлівае крытыкі, бо ўсе расейскія партыі, пачынаючы манархістымі і канчаючы сацыялістымі, лічылі і лічаць Беларусь часткай адзінай, непадзельнай матушкі Расеі, а гэта значыць зьяўляецца адкрытымі ворагамі беларускае культуры“. (Арт.: Ад „Нашае Долі“ да „Беларускае Культуры“, стар. 41).

А ў другім месцы „Беларуская Культура“ піша:

„Паўлюкевіч, убраўшыся ў палянафільскую вопратку, трымаець нейкую падазроную сувязь з расейскімі манархістымі і эмігрантамі, а сваіх блізкіх супрацоўнікоў выхоўваець на расейскіх нацыянальных „герояў-патрыётаў“. (Артыкул „Шлях да незалежнасьці Беларусі“, стар. 35).

Дык вось гэта была „бомба“. А цяпер вось і прычыны выклікаўшыя яе ўзрыў. Тут ужо ясна і адкрыта, што гэтакую пісаніну аднае палянафільскае газэты і „групкі“ па адрэсу другое, выклікала канкурэнцыя, ці „соревнованіе“ —выперадкі ў працы на карысьць шчодрае для іх маткі Польшчы і яе „дзядка“.

Умястоўскі, як шчыры Паляк ня можа абсалютна даверыць Расейцу Паўлюкевічу, а таксама не пазбаўлены і жаданьня быць адзіным кіраўніком палянафільскага фронту. Вось з-за гэтых прычынаў і распачаліся выперадкі ў працы двох чужакоў-падшывальнікоў над безрэзультатным баламуцтвам Беларускага Народу.

Разумеецца, што нападкі Умястоўскага вельмі перапудзілі Паўлюкевіча, то-ж не жартачкі астацца бяз сродкаў і сесьці ізноў у калёшу!... Дык і „заквакалі жабы“ ў яго балоце. У № 26 свайго „Беларускага Слова“ Паўлюкевіч даў адказ і зьмясьціў аж пяць пратэстаў сваіх дэфэнзыўных экспазытураў. Гэтымі пратэстамі ўсе паўлюкевічаўскія дэфэкспазытуры даводзяць, што ўсё, што піша Умястоўскі ў сваей „Беларускай Культуры“ зьяўляецца няпраўда, што палянафільства Паўлюкевіча вельмі моцнае і божацца, прысягаюць і клянуцца ўсе пяць „паўлюкевічанкі“, што яны шчыра і глыбока кахаюць польскую дзяржаву і што здоляюць навярнуць да гэтага ўвесь Беларускі Народ.

Апошні, гэтую сьвятую прысягу, падпісаў ад імя працаўнікоў „Беларускае Будкі“ быўшы „генерал-рэдактар“ „Сялянскае Нівы“—Міцька. Гэтак і падпісаўся!... Навошта Міцька ўвесь час ужывае свайго былога тытулу?... Вось пытаньне?!... Трубіць аб тым, што „Сял. Ніва“—нікудышная і пасьля тытулуецца як быўшы яе „генерал“. Гэтак рабіць можа чалавек, у якога не стае аднае клёпкі, як гавора прыказка. Дык аб гэтым мы знаем у адносінах да Міцькі, а цяпер дазналі і ў адносінах да Паўлюкевіча... які — ганьбіць „тавар“ і купляе яго. Усё гэта гавора, што калі людзі папулярызуюцца быўшаю блізасьцю да „Сял. Нівы“, дык сама яна безумоўна цэнная, бо фальсыфікуецца толькі добры тавар!...

На заканчэньне яшчэ раз адзначу:—вось як выглядае жыцьцё ў палянафільскім балоце,— адны жабы квакаюць з дакорам па адрэсу другіх за няверны тон, а другія з перапуды, як-бы не пазбыцца свайго логава божацца і клянуцца, што іх тон выліваецца з глыбіны жабінага сэрца і са шчырым пачуцьцём да хлебадаўцаў.

**Яснавід.**

# Замест адказу.

Вясьці палеміку з Паўлюкевічам і з яго „Словам" мы ня лічым патрэбным. Ня лічым патрэбным дзеля таго, што яго праца ўжо даволі ўсім вядомая. За гэта ён і карыстаецца з ласкі, з шулерні і з грошай ад „гаспадароў" каб пяяць ім гімны, як гавора наш сымпатык у сваім ніжэй паданым лісьце. За гэта яму і плацяць, каб ён лаяў таго, хто запраўды працуе на карысьць Беларускага Народу.

Не вядучы прынцыпова палемікі з брудасам і ганебнікам, замест адказу на яго зьвягу, зьмяшчаем ніжэй два лісты: няхай ведае сьвет, як аб Паўлюкевічу думаюць масы і якія пасьпехі мае яго праца і заклікі яго купленых сяброў. Там, дзе зганьбіў сябе прадажнасьцю Гардзей, арганізуецца Гуртох Беларускага Сялянскага Саюзу. Вось як памог Гардзееў заклік аб тым, каб Беларусы адхіляліся ад сваей арганізацыі ды прыставалі да польскае, якою зьяўляецца паўлюкевічаўшчына.

### Некалькі запраўдных слоў.

(Ваўкавыск).

Апошнімі часамі ў сувязі з канфэрэнцыяй, на Беларускі Сялянскі Саюз ізноў пасыпаліся шматлічбовыя нападкі ворагаў Беларускага Народу. Вось на гэтых нападках і хочацца затрымацца, ды сказаць некалькі словаў. Асабліва злосна нападае паўлюкевічаўскае „Слова", а таксама, хоць ня ў гэтакай меры і „Н. Праўда".

Мяне перадусім дзівіць, няўжо-ж кіраўнікі „Нашае Праўды" страцілі-б што-колечы калі-б Беларусь стала незалежніцкаю? Здаецца, што не! Дык навошта-ж нападаць на таго, хто жадае незалежнасьці і колькі можа і што можа рабіць у мэтах яе здабыцьця? Я не магу зразумець прычыны нападкаў „Нашае Праўды" на Беларускі Сялянскі Саюз!...

Рэч іншая паўлюкевічаўшчына!... Я добра знаю, што Паўлюкевіч па нацыянальнасьці Расеец са стады „слаўных" чорнасотнікаў, дык і стараецца біць польскімі прыладамі Беларускі Народ ува імя „бацюшкі-цара". І ўсе гэта добра разумеюць, а дзеля гэтага самага з усіх паўлюкевічаўскіх нападкаў на Беларускі Сялянскі Саюз і на іншыя беларускія арганізацыі, народ сьмяецца, а да самага Паўлюкевіча з агідаю праяўляе ненавісьць.

Народ ведае, хто такі Паўлюкевіч і добра знае яго шкодную працу, дык і ня дзіва, што яго дэфэнзыўнага зьместу напады на запраўдных Беларусаў параджаюць злосьць у пачуцьці ўсяго Народу, апрача здэмаралізаваных, здэнацыяналізаваных прадаўшых сябе за грошы Паўлюкевічу адзінак, якія трацяць пашану ў вачох беларускіх масаў.

Сялянскі Саюз чысьцінёю сваей Ідэі захоплівае кожнага Беларуса, а Ідэя Беларускага Сялянскага Саюзу ўжо даўно ведамая.

Дык вось чаму запраўды сьмешна выглядае ўся камэдыя паўлюкевічаўскага „Слова" з яго „высока-артыстычнымі" гімнамі: „О, матка Польшча, кахаю цябе!" Гэтакі „конік", як нейкі Гардзей, не далёка павязе паўлюкевічавую каляску „понимаете-ли!"

Вінаград.

### Да Цэнтральнага Камітэту Беларускага Сялянскага Саюзу.

Я, ніжэй падпісаны, жыхар вёскі Літвы, Палачанскай пошты і гміны, прашу Ц.К.В.С.С. выслаць мне камплект літэратуры для ўходу ў партыю і на арганізацыю Гуртка Інстытуту Гаспадаркі і Культуры. У нас, як прачыталі „Сялянскую Ніву" пасьля канфэрэнцыі, то ўвідзелі, што Саюз ёсьць партыя праўдзівая, каторая бароніць нашыя інтарэсы. Хоць у нас у вёсцы быў сябра Саюзу А. Г., але яго ніхто ня ведаў, што ён ёсьць у партыі. Толькі з паўлюкевічавай газэты ўвідзелі, што А. Г. быў сябра Саюзу.

Я—віч.

18.VIII. 1927 г.

# Да нас пішуць.

### Беларускі Народны Тэатр у Гарадзеі.

Нядзеля 21-га жніўня с. г. Дзень пагодны, трохі пахмурны. Жыхары места і вёскі, якіх дзеліць палатно чугункі ад самага раньня ў прыпаднятым настрою. Нейкая няведамая сіла ўвайшла ў іхнае пачуцьцё, заэлектрызавала іх... Кожны чуецца добра, радасна, прыемна... Гэта-ж наш родны Тэатр, наша роднае беларускае слова, наша культура сёньня будзе на сцэнэ ў Гарадзеі! Словы „Беларускі Тэатр" ня сходзяць з вуснаў кожнага, усе чакаюць толькі вечара. Надыходзе 8-ая гадзіна, пачынаець запаўняцца саля моладзёжай, а за ёй ідуць і старэйшыя. Зайграла духавая аркестра і зараз уся саля запоўнілася. Чуецца гоман, сьмех і словы... пачынаецца патрыятычным маналёгам Стасюка, які захоплівае Беларусаў зьместам і ігрой.

Незабаўна на сцэне камэдыя у 2-х актах М. Кудзелькі—„Мікітаў лапаць". Ролі абсаджаны так: Яўмень—гр. А. Лобан; Грыпіна—гр-ка Э. Залкінд; Зоська—гр-ка З. Ррыц; Дар'я—гр-ка Туркевічанка; Саўка—гр. М. Маскалік і Мікіта—гр. Івашка.

Усе артысткі і артысты іграюць нязвычайна жыва і памастацку. Камэдыя і ігра напаўняе салю гумарам, гучным сьмехам. Тэатральнае прадстаўленьне заканчваецца танцам на сцэне беларускай Лявоніхі, якая нязвычайна ўдала праводзіцца трупай. На самы канец выступае хор, зложаны з тых самых артыстак і артыстаў, якія вельмі добра спаўняюць некалькі беларускіх народных песьняў, а на незамоўкны—біс пяюць:

„Дзе чутны мовы нашай гукі,
Дзе брат гаруе з году ў год
Там працы шмат чакаюць рукі,
Там Беларускі Наш Народ"!...

Зачыняецца заслона, уся саля поўна апладзісьментаў і клічаў: біс, біс, біс!

Прысутны.

### Першая ластаўка Беларускай Культуры ў Моўчадзі.

Спакон веку ў Моўчадзі ня бачылі і ня чулі беларускіх культурных дзеячаў і культурных арганізацыяў. Простую беларускую мову можна было толькі пачуць у сераду на кірмашы. Яна, як тая хваля пакатвалася з-за, ўсіх старон, (з акружаючых вёсак), у мястэчка і тут, як кроў у сэрдцы бурлела-кіпела цэлы дзень бязупынна. Мову родную нашу спанявералі, насьмехаліся, але не маглі стрымаць; яна як лавіна каціласа па мястэчку бойка і нястрыманна!..

У другія дні чуеш размову польскую, гэта спалянізаваныя каталікі-Беларусы, каторыя лічаць сябе „інтэлігэнтамі", (бо Палякаў зусім няма ў Мочадзі), або чуеш расейскую, гутарку, гэта зрусыкаваныя праваслаўныя Беларусы, (бо Расейцаў так-жа няма). Ну, а тут табе летам сьнег на галаву!.. 3,4, 6, 7 жніўня г. г. бачым у Моўчадзі „Беларускі Народны Тэатр", з мастацкім выпаўненьвям прыгожых беларускіх п'есаў і народных песьняў. Што гэта?! Прыгожыя, інтэлігэнтныя, асьвечаныя людзі гаворань, іграюць і сьпяваюць на мужыцкай мове, ды яшчэ гэтак пекна выходзіць і не фанабарыстыя. Вялікую прыемнасьць мы мелі з ласкі ўмелага кіраўніка тэатру грам. Яцыны і паважаных артыстаў.

Вітаем Вас, першыя ластаўкі нашага Беларускага Культурнага жыцьця. Вітаем Вас!!!

O. Nihil.

### Спэктакль у Арлянятах.

7-га жніўня Гуртком Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры ў вёсцы Арлянятах быў зладжваны спэктакль вечарына. Пастаўлена было „Птушка Шчасьця"—Аляхновіча і „Суд"—Галубка. Вечарына прайшла вельмі добра. Было вялікае зацікаўленьне ў публікі і шчырае пажаданьне далейшай працы на ніве роднай культуры. Артысты-аматары, ня глядзячы на тое, што амаль усе гулялі першы раз на сцэне, сыгралі свае ролі вельмі добра. Дапоўнілі праграму скокі, дзе таксама можна сьцьвердзіць з прыемнасьцю, што ўсе адбылося бяз ніякіх авантураў, як гэта даецца заўвашыць на вясельлях. Цяпер Гурток Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры ў Арлянятах зьбіраецца ўзноў сарганізаваць спэктакль на 28 жніўня; мае быць пастаўлена „Паўлінка" і „Зьбянтэжаны Саўка".

У. Г.

### Да Беларусаў.

(Пружаншчына).

Сумна неяк і жаль агартае калі прыгледзішся да нашага гаротнага жыцьця. Гаротнае яно зусюль, мы як сіраты, якія, на свaей Бацькаўшчыне Беларусі гаруем з году ў год, пад зьдзекам чужынцаў, каторыя што раз то больш запаўняюць наш край. У нашых бацькоў зямлі мала, а нам ужо на гэную зямлю дык і квапіцца ня прыходзіцца. У нас пад бокам „рэформуюць зямлю, тую зямлю, каторая абліта потам нашых продкаў. Але ці дзе хоць аднаму Беларусу ўдзялілі хоць куртаты кавалак зямлі? Не!.. Усю зямлю абселі чужынцы. У нас нігдзе няма на беларускіх вёсках школ, мы маладыя астаемся без навукі, тагды як кожны народ мае высокае школьніцтва. У нас, калі знойдзецца шчыры змагар за родную школу і асьвету, дык лічаць яго „бальшавіком" саджаюць за краты, як праступніка. З усіх сіл стараюцца забіць думкі Беларуса, сілай навязваюць чужую школу, з мэтай здэнацыалізаваць нас. Ці-ж ня сіратамі мы асталіся ў сваім краю, пазбаўляныя зямлі і школы? Але якім-бы спосабам яны ня стараліся нас здэнацыялізаваць усё-ж такі мы астаёмся Беларусамі. Мы асьвету здабываем бяз школы, мы жылі раней і будзем жыць заўсёгды. Толькі няпрыемна, што „Наша Праўда" кідае брудам, лаянкай, брахнёю аблівае нашых шчырых прадстаўнікоў. Замест таго каб змагацца з няпраўдай, з ворагамі ў масках Беларусаў, яна змагаецца з нацыянальным рухам, і яго дзеячаў аблівае брудам у кожным нумяры. І гэта ўсё творыцца пад той час, як трэба было-б стануць у адзіны фронт усім Беларусам.

Сын Беларуса.

# Гаспадарскі аддзел.

### Як сушыць грыбы.

У нас прынята сушыць грыбы цэлымі ў печы на разасланай саломе, або на шпільках, ваткнутых у дошку. Сушацца найбольш галоўкі, а карэня іх, маючыя ня меншую вартасьць чым галоўкі, або ідуць на смажэньне, або выкідаюцца. Зсушаны грыб гаспадыня, кладучы ў гаршчок ломіць на кавалкі. Часам грыб будзе трохі чарвівы, дык з споднягo боку зсохшага грыба відаць дзірачкі. Чарвякі ў гарачай печы зараз уміраюць у сярэдзіне тоўстага грыба. А як грыб разварыцца, яны ўспывуць наверх стравы, так што агідна яе есьці.

Заграніцай, асабліва ў Чэхіі, такі спосаб сушэньня грыбоў даўно пакінуты. Тутака грыбы, як галоўкі так і карэньня іх, крояць на тонкія пласточкі (каля 2-х мілімэтраў), раскладываюць на спэцыяльна прыгатоўленыя для гэтага дзерэвяныя рамы, ці проста на чыстую дошчку і сушаць на сонцы. Нанач уносяць у будынак пакуль раса не напала. Пры харошай пагодзе, грыбы за два дні высахнуць як трэба. Недасушаныя трэба дасушыць на печы. Калі дзе і быў які чарвячок, дык ён вылезе і спаўзе на зямлю; у высушаных пласточках грыбоў ніякіх дзірачак відаць ня будзе. Сушаныя такім спосабам грыбы (баравікі) будуць белыя і маюць прыемны запах.

### Як рабіць грыбовы экстракт „Maggi".

Дзеля таго, што сушаныя грыбы цераз нейкі час выдыхаюцца, трацяць свой запах і смак, а для хаваньня іх патрабуюць вельмі сухога мейсца, дык робіцца з іх грыбовы экстракт „Maggi".

Трэба сьвежыя грыбы добра ачысьціць, пакрышыць, палажыць у гаршчок, уліць трохі вады, пасаліць і варыць (лепей душыць, ці парыць пад накрыўкай). Як яны добра разварацца (з гадзіну), даць ім астыць і добра выцісьнуць з іх расол цераз палатно. Выварыць такім самым спосабам карэньня моркі, пятрушкі і цэралю і так сама працэдзіць. Выварыць добра шпіковыя валовыя косьці, разсечаныя на кавалкі. Гэтыя тры расолы зьмяшаць, уліць у гаршчок і доўга варыць, аж экстракт станецца густаватым, падобным да маліновага соку (ён мусіць быць добра салёны). Адстыўшы экстракт—наліць у бутылку, моцна заткнуць і заліць затычку лякам, каб дух не праходзіў. Лыжка „Maggi" дужа прыдае смаку і запаху ўсякай страве, асабліва мясному расолу.

М. Вершынін.

# Юбілей плуга.

Плуг у сучаснасьці для нас зьяўляецца звычайнаю земляробскаю прыладаю. Аднак-жа плуг мае сваю гісторыю і даволі слаўную. 100 гадоў таму назад браты Вэвэркі ў вёсцы Рыбітвы (Чэхаславакія) змайстравалі плуг і прыстасавалі яго да земляробства, даўшы гэтым поўную адстаўку сасе, акая не гарала, а толькі парола зямлю.

З таго часу прашло ўжо сто гадоў, а дзеля гэтага самага, у Чэхаславакіі адбылася вялікая ўрачыстасьць.

У месце Пардубіцах у прысутнасьці міністраў сяляне сьвяткавалі юбілей плуга. Там знаходзіцца нават памятнік братом Вэвэркі, вынаходцам плуга.

Прысутны на юбілейнай урачыстасьці некалькітысячны натоўп людзей адбыў экскурсію з места Пардубіц у Рыбітву, дзе жылі і працавалі браты Вэвэркі.

Разам з натоўпам адведалі вёску Рыбітву старшыня чэхаславацкіх міністраў Швэгля, ваенны міністар Удржал і міністар земляробства Сардзінка.

На поле вёскі Рыбітвы было прагарана некалькі барозен плугам, які спэцыяльна быў зроблены па форме першага плуга братоў Вэвэркаў.

У сувязі з урачыстасьцю наладжана была выстаўка ўсіх земляробскіх прыладаў, пачынаючы ад гістарычнае сахі і канчаючы сучасным плугам-трактатарам.

